№ 41 (3782)

28 мая 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

***Не спазніцеся! Да заканчэння падпіскі на другую палову 2013 года засталося мала часу. Будзем разам!***

**ЭКАНОМІКА**

## Руанда Расію не заменіць

*На складах мінскіх прадпрыемстваў знаходзіцца тавараў на 9,3 трлн рублёў, што раўназначна стратам гарадскога бюджэту ў 550 млрд рублёў. Толькі за чатыры месяцы гэтага года (на 1 мая) запасы выраслі амаль на 65%.*

Кіраўніцтва Мінгарвыканкама прычыну такога небяспечнага назапашвання бачыць у недапрацоўцы маркетынгавых служб прадпрыемстваў, а не ў якасці выпускаемай прадукцыі.

Па афіцыйных даных, у студзені—красавіку гэтага года прадукцыя сталічных прадпрыемстваў пастаўлялася ў 100 краін свету, тады як у мінулым годзе — у 144 краіны свету. Засвоены толькі адзін новы рынак збыту — Руанда. Адноўлены пастаўкі на рынкі Сальвадора, значна павялічыўся экспарт у Швецыю, Іран, Азербайджан, Румынію, Бельгію, Сербію. Але ўсё, шчыра прызнаюцца чыноўнікі, не дазволіла кампенсаваць "прасяданне" расійскага рынку. На долю пяці краін прыпадае 85% экспарту, з іх дзве трэці — на Расію.

Дык, можа, нам даўно пара арыентавацца не на запыты Расіі, а выпускаць прадукцыю, якую купяць і ў Еўропе, і ў Руандзе, і ў іншых краінах?!

**Ігар зАЛЕСКІ.**

**ВІЗІТ**

## Кіраўнікі Беларусі, Расіі і Казахстана сустрэнуцца ў Астане

28—29 мая пройдзе пасяджэнне Вышэйшага еўразійскага эканамічнага савета — вышэйшага органа Мытнага саюза і Адзінай эканамічнай прасторы. Як паведамляе прэс-служба Крамля, у часе пасяджэння першачарговая ўвага будзе нададзеная далейшаму развіццю інтэграцыі і стварэнню да 1 студзеня 2015 года Еўразійскага эканамічнага саюза.

А вось у Бішкек на нефармальную сустрэчу кіраўнікоў краін АДКБ, якая прайшла ўчора, 27 мая, Аляксандр Лукашэнка, як высветлілася, не быў запрошаны. Як, дарэчы, і прэзідэнт Арменіі Серж Саргсян.

**ДЫПКУР'ЕР**

## Без віз?

У панядзелак, 27 мая, у Міністэрстве замежных спраў Беларусі адбылася сустрэча начальніка галоўнага консульскага ўпраўлення Аляксандра Астроўскага і начальніка ўпраўлення Афрыкі і Блізкага Усходу Ігара Ляшчэні з паслом Ізраіля Іосіфам Шагалам.

Як паведамляе прэс-служба МЗС, у ходзе сустрэчы паслу была перададзена афіцыйная нота беларускага боку з прапановай падрыхтаваць да падпісання пагадненне аб кароткатэрміновых (тэрмінам на 30 дзён) бязвізавых паездках для грамадзян дзвюх краін.

**НУ І НУ!**

## Цэны на кватэры ў Беларусі звар'яцелі...

Кошт квадратнага метра жылля ў сталіцы дасягнула 1608 долараў. Гэта максімальны паказчык за апошнія чатыры гады. Прычым лічба працягвае расці. Што тычыцца новабудоўляў, то сярэдняя цана квадратнага метра дасягнула 1482 долараў. Пабудаваць кватэру ў Мінску без ільгот цяпер каштуе даражэй, чым у Кіеве!

Якую суму трэба мець, каб купіць сабе хоць нейкую кватэру ў сталіцы Беларусі? Як мінімум 40 тысяч долараў. Згодна з базай кватэр, выстаўленых на продаж, столькі каштуе самае таннае жыллё. Гэта аднапакаёвая кватэра плошчай 25,3 м² на вуліцы Мініна ў двухпавярховіку, якія пабудаваны ў 1948 годзе. Іншымі словамі — у былым бараку.

**НАДВОР'Е**

## Лета прыйдзе па календары

*Па даных сіноптыкаў, у Беларусі на гэтым тыдні чакаецца ўмерана цёплае надвор'е з навальнічнымі дажджамі.*

Сёння, у аўторак, надвор'е будзе вызначацца вобласцю паніжанага атмасфернага ціску. На большай частцы краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы, месцамі прагрымяць навальніцы. Ноччу і раніцай у асобных раёнах згусцяцца слабыя туманы. Тэмпература паветра ад плюс 16 на захадзе да 23 на паўднёвым усходзе.

У сераду, 29 мая, таксама месцамі чакаюцца кароткачасовыя дажджы з навальніцамі. Паветра прагрэецца да 18—24 вышэй за нуль.У чацвер, 30 мая, будзе яшчэ цяплей — ад 21 да 27 градусаў са знакам плюс, у пятніцу — 23—28 і ўсё тыя ж кароткачасовыя дажджы.

А вось чэрвень з першых жа дзён прынясе ў Беларусь па-сапраўднаму летняе надвор'е, хаця без дажджоў таксама не абыдзецца. У суботу, 1 чэрвеня, ноччу месцамі, а днём па большай частцы тэрыторыі краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы, прагрымяць навальніцы. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 11—17 градусаў, днём прагназуецца ад 22 да 29 градусаў вышэй за нуль. Такое ж надвор'е будзе і ў нядзелю.

**ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ**

## Мінчане штурмуюць выканкамы

Нядаўна стала вядома, што непрыватызаваныя кватэры неўзабаве могуць перавесці ў разрад арэндных. Гэтая навіна справакавала хвалю жадаючых прыватызаваць жыллё.

У службе "Адно акно" Маскоўскага раёна Мінска толькі за 4 дні мінулага тыдня афармілі столькі ж заяў, як за ўвесь красавік.

Тое, што непрыватызаваныя кватэры хутка пяройдуць у разрад арэндных, — пакуль толькі праект. Дакумент цяпер на разглядзе ва ўрадзе. Але такія чуткі, відавочна, прымусілі людзей паспяшацца.

**СКАНДАЛ**

# Не засиделся ли Константин Сумар в «губернаторах»?

*На минувших выходных почти все сайты облетела новость об акции, которую устроили брестские футболисты: в знак несогласия с тем, что им на четыре месяца задержали выплату зарплаты, они на 10 минут задержали начало очередного матча. В это время болельщики скандировали лозунги с требованием отставки председателя Брестского облисполкома* ***Константина Сумара.***

*Как сообщают СМИ, акция прошла без насильственного вмешательства милиции (что в последнее время, кстати, редко бывает), и даже закончилась победой брестского "Динамо". Более того — после матча спортсмены все-таки увидели деньги (пусть и небольшие!) на своих карточках — об этом "Народной Воле" вчера рассказал начальник команды.*


Константин Сумар (слева), похоже, доигрался...

*"Руководство просило нас не задерживать игру, но это решение было принято давно всей командой*, — прокомментировал ситуацию сайту football.by нападающий брестского "Динамо" **Николай Сигневич**. — *Мы, с одной стороны, понимаем наше руководство, однако и оно должно нас понимать. Четыре месяца не платить зарплату — это что, нормально? Да, были какие-то собрания, но команда все равно решила задержать игру. Причем это общее мнение: и игроков, и тренерского штаба. Думаю, после этого хоть какие-то продвижения начнутся, ситуация станет улучшаться".*

Интересно, сколько месяцев председатель Брестского облисполкома Константин Сумар сам продержался бы без зарплаты? И как долго он работал бы за спасибо, если бы его семье нечем было заплатить, например, за коммунальные услуги?

Вообще, как жить, когда не платят зарплату? Когда ты знаешь, что деньги вроде бы есть, но при этом их нет, потому что на карточку перечисляют всего миллион-полтора? Причем зарплаты у брестских футболистов не атомные — от 3 миллионов до 3 тысяч долларов. Для сравнения: около тысячи долларов зарабатывает начинающий белорусский хоккеист.

Сегодня мало в каких странах государство содержит спортивные команды. И если у Сумара нет денег в областном бюджете на содержание футбольной команды — значит, он должен или поделиться своей зарплатой со спортсменами, или заявить о смене собственника команды и отправить футболистов в поисках инвесторов в свободное плавание. Есть еще третий вариант — сменить председателя облисполкома.

Константин Сумар руководит Брестской областью уже более 9 лет — с марта 2004 года. В кулуарах Сумара сегодня называют одним из компанейских белорусских "губернаторов". Он любит бывать на публике, регулярно устраивает "прямые линии", не боится отвечать на вопросы, слывет либералом, иногда даже песни заводит вместе с региональными журналистами. Однако при всем при этом в Брестской области это уже не первый скандал с несвоевременной выдачей зарплаты...

Что и говорить, не все так хорошо в области, как вещают ее руководители. Строятся агрогородки, марафетятся райцентры и такие города, как Брест, Пинск, Барановичи. Но умирают десятки, сотни обычных деревень и деревушек. Никогда в селах не было столько неустроенных людей, можно сказать, бомжей, сколько их теперь! По статотчетности они не проходят как безработные. Но... Пользы ни себе, ни стране не приносят, бодяются с утра до ночи. Пьянство буквально захлестнуло периферию! Это не от хорошей жизни. Не так уж много хозяйств, где могут похвалиться высокими зарплатами. Тысячи семей едва-едва сводят концы с концами.

А что на заводах и фабриках Брестчины? Многие предприятия, которые раньше славились на всю страну, теперь лежат плашмя. Вот за Барановичским хлопчатобумажным комбинатом А.Лукашенко вынужден был закрепить премьера М.Мясниковича, чтобы вытянуть его из долговой ямы. Не намного лучше дела на ряде других предприятий. Затовариваются склады, низкие зарплаты, отток кадров...

Акция на футбольном стадионе — это зеркало, которое продемонстрировало ситуацию на всей Брестчине. Разве думали когда-то ее жители, что будут ездить в соседнюю Польшу, чтобы отовариться необходимыми продуктами, бытовыми товарами по более дешевым ценам? Кто мог подумать, что те же поляки будут зарабатывать в два с лишним раза больше, чем брестчане, пинчане, жители других здешних городов и городков? Проблема, и еще какая! Горький упрек местным властям.

Распевать песни во время разных импрез никому не запрещается. В том числе и председателю Брестского облисполкома Константину Сумару, которого иногда называют губернатором. Хотя какой он губернатор? Если его никто из жителей области не выбирал, он назначенец одного человека — Александра Лукашенко. И они вместе в ответе за то, что делается в области, какие нерадостные перспективы ее ожидают.

### ПОСЛЕ ИГРЫ

Как стало известно "Народной Воле", вначале футболисты планировали задержать игру на полчаса. Однако буквально перед самым матчем на разговор со спортсменами пришел представитель облисполкома, который пообещал, что спортсмены без денег не останутся.

*"Проблема с выплатами зарплат актуальна почти для всех команд Высшей лиги, кроме БАТЭ*, — рассказал "Народной Воле" начальник футбольной команды. — *Но у нас она особенно остро стояла. Мне про этот случай с нашими болельщиками все рассказывают, но мы сами этого не видели — в раздевалке были. Перед самым матчем пришел представитель облисполкома и объяснил, какая ситуация с зарплатой. Сказал, что Сумар собрал всех инвесторов и вопрос, в конце концов, решился. Думаю, важно, что такой разговор состоялся перед матчем, и настроение у ребят изменилось. Выплатили ли зарплату? Насколько я знаю, в день матча какие-то деньги уже стали поступать на карточки..."*

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

**С ПОБЕДОЙ!**

## Спартак МИРОНОВИЧ: "Если кто-то думает, что после матча мы всю ночь пили и гуляли, то это не так"

*В минувшее воскресенье гандболисты минского СКА спустя 23 года завоевали европейский трофей — Кубок вызова. Легендарный тренер команды Спартак Петрович МИРОНОВИЧ рассказал "Народной Воле", что для него означает эта победа, и как оценила успех супруга.*






25 мая на "Минск-Арене" в ответном финальном матче против люксембургского "Эша" команда Спартака Мироновича, которому в июне исполнится 75 лет, одержала победу со счетом 32:24. Встреча соперников 18 мая в Люксембурге также завершилась в пользу СКА — 31:26.

— После тяжелой игры поздравили друг друга и разъехались по домам, чтобы отдохнуть, — рассказывает Спартак Петрович. — Если кто-то думает, что мы пили и гуляли всю ночь, празднуя победу, то это не так.

**— Как вам спалось?**

— Нормально, как всегда. Понимаете, таких матчей у нас очень много бывает. Сегодня выиграли и всё — завтра забыли. Вот уже 29 мая нас ждет сражение с минским "Динамо" за звание чемпионов страны. Это будет такой же сложный и ответственный матч. Так что у нас вся жизнь и игра, и борьба. И волноваться приходится всегда.

**— Насколько победа в Кубке вызова — дорогой для вас подарок накануне 75-летия?**

— Вот я и сам не могу определиться. То ли юбилей подошел к победе, то ли победа к юбилею.

**— А жена была на трибуне во время матча?**

— Безусловно. Но после игры не критиковала. Победили все-таки...

**— Недавно, когда журналисты попросили вас подвести итог последних пяти лет, вы с юмором ответили: "Ну что тут сказать. Я до сих пор жив. Назло надменному соседу по даче".**

— Насчет "надменного соседа по даче" — это был образ. Мол, живы мы, на зависть всем. Кстати, мой сосед юмора не понял и уже обратился ко мне: "Петрович, чем это я тебе насолил? За что обиделся?" А я никого и не собирался обижать...

**Алесь СИВЫЙ.**

**ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ**

## Колькі беларусаў пабывала ў Еўропе?

*Па мінулым годзе на гэтае пытанне ёсць зусім дакладны адказ.*

У мінулым, 2012-м, годзе беларусы атрымалі 693 425 шэнгенскіх віз катэгорыі "З" і 10.054 віз з абмежаваным тэрытарыяльным дзеяннем. Такім чынам, Беларусь стала сусветным лідарам па колькасці шэнгенскіх віз на душу насельніцтва. У мінулым годзе мінімум 700 тысяч нашых землякоў пабывалі ў Еўропе. Прычым рост у параўнанні з 2011 годам склаў прыкладна 100 тысяч віз.

Па колькасці выдадзеных віз лідзіруе Польшча — 292 тысячы. Літва выдала крыху больш за 193 тысячы, Германія — каля 66 тысяч.

**УПЕРШЫНЮ**




**У нядзелю каталікі адзначалі дзень Святой Троіцы. Упершыню сорак тысяч вернікаў прайшлі па цэнтральным праспекце Мінска.**
**Першымі ішлі дзяўчаткі і рассыпалі пад ногі вернікам пялёсткі кветак.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
28 МАЯ 2013 г.

ЖУРНАЛІСЦКАЕ РАССЛЕДАВАННЕ

# Фільтруй, Вася, фільтруй, альбо Піць ці не піць ваду з-пад крана?

*Інтэрнэт зашкальвае каментарыямі пра якасць пітной вады ў Мінску. Адны крыюць на чым свет водаправоднае пітво, другія лаюць начальства, трэція заклікаюць фільтраваць "хлоркавую жыжку". Іншыя — чыноўнікі — гнуць сваё, маўляў, няма чаго наракаць: вада ў нас, як Божая сляза... Каму верыць?*

*"Пітная вада ў Мінску застаецца самай чыстай у рэспубліцы і на ўсёй постсавецкай прасторы",* — упэўнена намеснік галоўнага інжынера УП "Мінскводаканал" **Наталля Халадзінская.**

*"Вада ў сталіцы прыдатная для піцця,* — пераконвае сваіх апанентаў і намеснік начальніка "Мінскводаправода" **Анатоль Чарнаморац**, — *проста некаторым людзям не падабаецца прысмак і пах хлоркі. Хлор, дарэчы, вельмі лятучы, таму адстойваць хларыраваную ваду ў банках можна. Я сам іншы раз гэтак раблю. Так, пах і прысмак хлору ў вадзе адчуваецца. Але такую ваду піць няшкодна. Сам жыву ў Маскоўскім раёне і п'ю ваду з-пад крана".*

Ну а што самі жыхары Маскоўскага раёна?

*"Запрашаю гэтага смелага таварыша аблізаць коўш фільтра-збанка пасля таго, як тыдзень наліваю ў яго ваду,* — прапануе спадару Чарнаморцу блогер "Вася" з вуліцы Грушаўскай. — *За тыдзень коўш пакрываецца чорнымі масляністымі плямамі: уражанняў яму хопіць... А ў раёне гасцініцы "Звезда" вада настолькі брыдотная на смак, што піць гарбату ніяк немагчыма. Я разумею, што спадару Чарнаморцу не сорамна, што на лёс і здароўе людзей яму напляваць, але ёсць жа нейкія межы. Шчасця Вам, Анатоль Альтэравіч!"*

З "Васем" салідарызуецца юзэр(ка) пад нікам "818":

"*Згодна на 200 працэнтаў,* — піша яна, — *бо пражываю побач, на вуліцы Уманскай. З калонкі ліецца жаўтлявая, мутная жыжка са смеццем і незразумелага саставу камякамі. Пахне гэтая субстанцыя хлоркай і балотнай цінай. Піць такую ваду без фільтра ніяк немагчыма. Фільтр паставіла нават на пральную машынку, а не толькі для пітной вады. Гэта ў нашым Маскоўскім раёне".*

Дык што, начальства, фільтраваць інтэрнэт-базар ці ўсё ж... ваду з-пад крана? Паколькі пражываю ў Маскоўскім раёне і не вельмі задаволены смакам пітной вады, адважваюся на эксперымент — бяруся-такі праверыць якасць водаправоднай вады з-пад уласнага кранчыка. Але як гэта зрабіць на прафесійным узроўні? Я ж не хімік і не мікрабіёлаг...

## Бясплатная... пастка

Пакуль вышукваў у сеціве адпаведную лабараторыю, незалежную ад "Водаканала", тая "лабараторыя" — у выглядзе цыбатага хлопца — сама з'явілася на парозе... Проста дзіва, наколькі цяперашнія агенты па продажы паслуг увішныя. Ледзьве не на крылах ляцяць да патэнцыяльных кліентаў. Пытанне ў іншым: ну адкуль уведаў той Яўген — кансультант нямецкай кампаніі, мой хатні тэлефон, адрас, прозвішча?.. Хто прадаставіў яму ці ягоным працадаўцам, канфідэнцыянальнае — закрытае для пабочных асоб?! Але вернемся да сутнасці...

Прачытаўшы кароткі курс па здаровым харчаванні, аснова якога якасная пітная вада, кансультант перайшоў да "лабараторнай дэманстрацыі" — проста на маёй кухні... Каб, значыцца, пераканаць, наколькі вада з-пад крана — жывая атрута... І юнаму камівояжору гэта — уявіце сабе — удалося: пасля прапускання вады праз электроды, праз спецыяльны дазіметр вада набывала дзіўны выгляд — не то асліная мача, не то кава "Эспрэса-Амерыкана"... Прычым усе пробы (халодная з крана, ахалоджаная пасля кіпячэння, адстоеная ў шкляным посудзе) мелі практычна аднолькавы колер — шэра-бурштынавы. Да ўсяго на паверхні плавала падазронае шалупінне... І адкуль яно ўзялося?! Ну, чыста алхімія... Перад тым як падумаць пра сярэднявечных цудатворцаў, у галавешцы ўсплыло больш знаёмае — камароўскія напарстачнікі... Акурат гэтак дурылі людзей, выскрабаючы ў даверлівых кроўныя рублікі. Цяпер іншыя часы, і напарстачнікі ўжо не "качкі" ў спартыўных шараварах. Іхнім спосабам па "законным" адыманні чужых грошай пазайздросціў бы сам Астап Бэндар...

Ачомаўшыся ад лёгкага шоку, пытаюся ў кансультанта: што ў "сухім" астатку, які прысуд вадзе? Той, зверыўшы паказанні "спецыяльнага прыборчыка" са шкалою, выносіць вердыкт: *"вада з-пад крана абсалютна непрыдатная да ўжывання, ні пад якім соусам! Уратуе толькі фільтрацыя... Ды вы самі бачыце..."*

Скрабу патыліцу, цікаўлюся, якая цана паўнацэннай фільтрацыі, колькі выкладваць за ўстаноўку, абслугоўванне і ўсё астатняе? *"Шэсць мільёнаў,* — кажа, — *плюс паўтара мільёна штогадова на замену картрыджаў. Можа, і дарагавата, але здароўе, самі разумееце, даражэй за ўсё".*

Пагаджаюся, бо крыць амаль няма чым... І ўсё ж дастаю з рукава апошнюю, "казырную" карту: прашу комівояжора зрабіць яшчэ адзін аналіз вады. Той пагаджаецца, нават згодны (для параўнання) зрабіць аналіз сваёй, эталоннай вады, якая сталася такой у выніку "фірменнай" фільтрацыі...

**З асабістага:** *Прыкладна 12 гадоў як не карыстаюся вадой з-пад крана, не скарыстоўваю для прыгатавання ежы. І не таму, што пахне цінай і хлоркай — не пахне... Проста не падабаецца смак. Да таго ж донца ў электрачайніку, як і ў пасудзіне для адстойвання вады, пакрываецца такой коркай, што ніякі воцат не праймае — не здзірае той накіп. Усё дзіўлюся, як людскія кішкі і ўсе астатнія вантробы вытрымліваюць гэткую трасцу. Можаце спытаць: якое тут выйсце, дзе бяру вадзіцу, нармалёвую па смаку і чысціні? А як і многія іншыя ў нашым раёне: узімку штотыднёва вязу дзве каністрачкі пітной з Уручча ці з вуліцы Куйбышава. Бяру ў сваякоў ці сяброў. Вада ў гэтых раёнах — тое, што трэба! А ўлетку "атаварваюся" крынічнай на дачы (Вішнёўка пад Мінскам) ці з глыбокасвідравіннай паблізу Евангелічнай царквы ў сваім раёне. І гэта сталася нормай, правілам, ну, як Ойча Наш... Можа, і залішняя перасцярога для цвёрдалобага фаталіста, але звычка — другая натура... Жонка, праўда, абзывае мой занятак "сізіфавым" заняткам, але ніколечкі не пярэчыць — не на сабе ж цягае тую ваду. Карацей, неяк прыстасаваўся: мы, беларусы, самыя адмысловыя ў свеце прыстасаванцы...*




Але што там з "алхіміяй" юнага кансультанта?.. Ён жа не ведае, што апошні іспыт — не столькі на якасць вады, колькі на сумленнасць усяго эксперыменту. Падсоўваю яму ваду з Уручча — лепшую, найсмачнейшую ў сталіцы. Праз пяць хвілін "найчысцейшая і найсмачнейшая" ператвараецца ў... знаёмую асліную вадкасць. Можа, крышку святлей, але нават светлае піва Лідскае — празрысцей... Карацей, вердыкт усё той жа — і гэтая вада непрыгодная для нашага страўніка-кішэчніка.

Нарэшце чарга дайшла да вады фірмова-фільтраванай... Пасля электроднага "шоку" — ніякіх перамен, ніякага памутнення, ніякіх лушпаек на паверхні. Вада — як дзіцячая сляза. Канечне, па шкале "алхіміка" яна і ёсць той узор, якога ўсім нам варта трымацца. Напаследак (для поўнай "чысціні" эксперыменту) комівояжор-кансультант вылівае сваю фільтраванку на падлогу. Потым чыстай салфеткай-прамакачкай выцірае лужу і выціскае вадкасць у станчык. Далей знаёмыя маніпуляцыі з электродамі, замеры на хлорку, празрыстасць, пах... І — о дзіва! — вада зноў чысцюткая, ніякай колернасці, паху... Пераможным позіркам Коперфілда кансультант-фокуснік ужо "фільтруе" маю істоту, маўляў, паспрабуй цяпер не купі нашы фільтры...

## Давяраць ці не вадзе?

"Не веру!" — сказаў бы Станіслаўскі. І я не паверыў, што адфільтраваная вада — жывая... З дапамогай сучаснай тэхналогіі фільтрацыі (зваротны осмас, напрыклад, які выкарыстоўваюць на касмічных станцыях) можна атрымаць так званую "ідэальную ваду". Але не факт, што гэткі дыстылят карысны для чалавека. Губляюцца, асядаюць на мембранах не толькі шкодныя хімічныя прымесі, але і жыватворныя мінералы, мікраэлементы, солі... Увогуле існуе шмат стандартаў на пітную ваду: ёсць стандарт Сусветнай арганізацыі аховы здароўя; Расійскі стандарт з адпаведнымі нормамі і ДОСТамі; стандарт ЗША і стандарт краін Еўрапейскага Саюза, нарэшце, стандарт Рэспублікі Беларусь. І яны далёка не ідэнтычныя, не заўсёды супадаюць нават па сваіх санітарных правілах і нормах (СанПіН), не кажучы ўжо пра нейкія там мікраэлементы. Але ў любым выпадку — і паўсюль, дзе цывілізацыя — пад тэрмінам пітной вады высокай якасці разумеюць наступнае:

**гэта вада з адпаведнымі арганалептычнымі паказчыкамі — празрыстая, без паху і з прыемным смакам;**

**вада з pH=7—7,5 і жорсткасцю не вышэй за 7 ммоль/л;**

**вада, у якой сумарная колькасць карысных мінералаў не больш за 1г/л;**

**вада, у якой шкодныя хімічныя прымесі альбо складаюць дзясятыясотыя долі, альбо наогул адсутнічаюць (значыць, іх канцэнтрацыя настолькі мізэрная, што палягае за межамі сучасных магчымасцей аналітычных метадаў);**

**вада, у якой практычна няма хваробатворных бактэрый і вірусаў.**

Калі арыентавацца толькі на апошні пункт (бактэрыі-вірусы), то ў Мінску з вадой усё "ціп-топ". Ва ўсялякім разе, па словах урача-гігіеніста аддзялення камунальнай гігіены ДУ "Рэспубліканскі цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя" **Ірыны Жэўняк**, на працягу 8 апошніх гадоў у сталіцы не былі зарэгістраваны выпадкі страўнікава-кішэчных захворванняў. Крыніцай апошніх якраз і бывае дрэнная вада. Размова, у прыватнасці, пра дызентэрыю... Выходзіць, і сёння ў любым раёне Мінска можна піць ваду з-пад крана, не баючыся атрымаць расстройства жывата? Верагодна так — можна. Але як з астатнімі патрабаваннямі? Ці не скарочаны іх спіс (маецца на ўвазе пералік нарматыўных паказчыкаў па хімічным аналізе водаправоднай вады) у параўнанні з тымі ж расійскімі і еўрапейскімі патрабаваннямі? Карацей, што на выхадзе з трубы, асабліва ў трох раёнах сталіцы, якія "харчуюцца" з адкрытай воднай крыніцы Вілейска-Мінскай воднай сістэмы, а гэта каля 30% усёй вады?

Не забывайма, у параўнанні з артэзіянскай такая вадкасць утрымлівае значна больш арганічных прымесей, а таксама вірусы і бактэрыі. Канечне, такая вада праходзіць поўны цыкл ачысткі, і нам кажуць: з якой бы крыніцы ні лілася пітная вада ў сталіцы, УП "Мінскводаканал" гарантуе яе якасць адпаведна прынятым нормам. Веру! Толькі ці поўныя тыя санітарныя правілы і нормы? Наколькі яны адпавядаюць сусветным стандартам, і ці не ўводзяць тут у зман, кажучы, што ачышчаная вада-верхаводка абсалютна бяскрыўдная? У рэшце рэшт, ці можна цалкам давяраць мінскай вадзе — той, што цячэ з-пад крана, і той, якую я бяру са свідравіны паблізу Евангелічнай царквы?

*"У параўнанні з вадой у еўрапейскіх краінах,* — кажа спецыяліст міжнароднага цэнтра здароўя і экалагічнай бяспекі "Эксімед" **Таццяна Нікалаева**, — *беларуская вада даволі кепская. І дзяржаве няма выгады падвышаць якасць водаправоднай вады. Чаму? Хаця б з тае прычыны, што еўрапейскія стандарты вельмі адрозніваюцца ад нашых. Даследаванні там ідуць па 70 паказчыках вады, а ў нас у лепшым выпадку — па 10—15. Натуральна, там параметры па якасці значна вышэйшыя, вада лепшая, але яна і... даражэйшая. І ў іх да ўсяго ёсць кран тэхнічны і кран для піцця. У нас, на жаль, усё цячэ з агульнага краніка. Таму і паказчыкі ўсярэдненыя — каб неяк падагнаць іх да больш-менш прымальных, бяспечных. Толькі 5% вады, якая ачышчаецца ў нас на станцыях водаачысткі і падаецца ў сістэму водазабеспячэння, выкарыстоўваецца людзьмі для пітных патрэб. Іншымі словамі, гэтулькі ачышчанай вады трапляе ў наш арганізм, а 9% ідзе на мыццё бялізны, падлогі і ўсяга астатняга. Таму нашай дзяржаве і няма сэнсу рабіць пітную ваду вельмі добрай якасці. Што ж адносна падземнай вады, то якасць яе звычайна "ўкладваецца" ў параметры нашага СанПіна. Але вось цікава: калі мы яе абпрацавалі дадаткова каагулянтам, то высветлілася, што там ёсць солі і нават іх лішкі — састаў даў асадак. Звычайна солі — калі ў межах нормаў СанПіна — спакойна выводзяцца са здаровага арганізма. А ці выводзяцца тыя лішкі з арганізма хворага чалавека?.. Не сакрэт жа, да свідравінных крыніц ходзяць многія мінчане, набіраюць ваду ў пяці-дзесяцілітровыя бутлі... П'юць, рыхтуюць розныя стравы — для малых, старых, для ўсёй сям'і. А ці ёсць у нас сем'і з абсалютна здаровымі людзьмі?.. Рытарычнае пытанне... Між тым не рэкамендуецца вада са свідравін людзям з захворваннямі нырак і кішэчна-страўнікавага тракта, у меншай ступені — "сардэчнікам". Ва ўсялякім разе тут варта паглядзець на хімічны састаў такой вадзіцы..."*

## Што ў нас па «хіміі»?

Каб высветліць гэтае пытанне, выпраўляюся на вуліцу Батанічную, 9 — у Цэнтральную лабараторыю філіяла РУП "Белгеалогія". Канечне, прыхапіўшы ваду з-пад крана — на разгорнуты хімічны аналіз... Працэдура простая: падпісваеш дамову, здаеш літроўку вады, плаціш 375 тысяч рублёў, і — праз тыдзень — на руках у цябе вынікі даследавання. Вось яны — перад вамі (**гл. у нізе паласы**):

Як бачым, аналіз сапраўды разгорнуты: тут і мінералізацыя, і нітраты з нітрытамі, і каціёны з аніёнамі, і ўсё астатняе... Лічбы самі па сабе мала што тлумачаць, тым больш нейкія каціёны... Затое прываблівае апошняя графа — "Вывад у адпаведнасці з патрабаваннямі ТНПА". І гэтыя вывады проста акрыляюць душу, бо насупраць усіх 21 пунктаў адно і тое ж — "адпавядае". Трэба разумець, якасць маёй водаправоднай вады цалкам адпавядае ўсім крытэрыям беларускіх СанПінаў. Першае, што прыйшло ў галаву: навошта было цягам дзесяці гадоў вазіць праз увесь горад ваду ў бутлях-каністрах? Водаправодная ж "верхаводка" з Вілейска-Мінскай сістэмы нічым не горшая... Хацеў было праспяваць асанну ў гонар нашых ачышчальшчыкаў-санітараў, але ўстрымаўся. І вось чаму: насупраць радка "асадак" чорным па белым напісана — "без асадку"... Але як так, калі донца электрачайніка не паспяваю аддзіраць воцатам?!.. Можа, забыліся пра хлорку ці там яшчэ пра які "цынк-малібдэн-мыш'як"? У расійскім СанПіне ажно 45 пунктаў, а ў нашым толькі 21. Канечне, "ачко" — яно і ёсць "ачко", але такі "фарт" мяне не радуе. Значыцца, не ў масць карта, ці аналіз хоць і разгорнуты, але не поўны... Такая роспач навалілася, такая настальгія — не выказаць. І што тут параіш сабе, Васю-блогеру з Грушаўкі, іншым, у каго хлорка на донцы душы і чайніка? Фільтраваць трэба, Вася, фільтраваць. І не столькі інтэрнэт-базар, колькі ваду з-пад крана. Ды і ўсё астатняе... А пакуль замест вады — Божай расы — хай бальзамам пральюцца словы паэта — з той самай "Настальгіі", якая была выказана Андрэем Вазнясенскім яшчэ ў далёкім 1976 годзе. Здаецца, час і напраўду рушыў у зваротны бок:

***Хлещет черная вода из крана,***
***хлещет рыжая, настоявшаяся,***
***хлещет ржавая вода из крана.***
***Я дождусь — пойдет настоящая…***

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**



РЕЗУЛЬТАТЫ ИСПЫТАНИЙ
Химический анализ воды
ЧЛ Чигир Г.П., водопроводная вода

| № п/п | Наименование объекта испытаний, показатели, технические требования, характеристики и т.д. | Номер пункта ТНПА, устанавливающего требования к продукции | Номер ТНПА, устанавливающего метод испытаний | Нормированное значение показателей, мг/л установленных в Сан-ПиН 10-124 — Обр. № не более | Фактическое значение показателей для каждого образца, мг/л — Обр. № 803 | Вывод в соответствии с требованиями ТНПА |
|---|---|---|---|---|---|---|
| I | II | III | IV | V | VI | VII |
| 1 | Натрий ($Na^{+}$) | 4.4.3. | 23268.6-78 | <200,0 | 6,2 | Соответствует |
| 2 | Калий ($K^{+}$) | | 23268.7-78 | | 2,2 | |
| 3 | Аммоний ($NH_4^{+}$) | | 4192-82 | | <0,1 | |
| 4 | Кальций ($Ca^{+2}$) | | 23268.5-78 | | 60,3 | |
| 5 | Магний ($Mg^{+2}$) | | 23268.5-78 | | 15,7 | |
| 6 | Железо (Fe) | 4.4.1 | 4011-72 | <0,3 | <0,05 | Соответствует |
| 7 | Хлориды ($Cl^{-}$) | 4.4.1 | 4245-72 | <350,0 | 12,6 | Соответствует |
| 8 | Сульфаты ($SO_4^{-2}$) | 4.4.1 | 4389-72 | <500,0 | 10,7 | Соответствует |
| 9 | Нитраты ($NO_3^{-}$) | 4.4.1 | 18826-76 | <45,0 | 4,0 | Соответствует |
| 10 | Нитриты ($NO_2^{-}$) | 4.4.3. | 4192-82 | <3,0 | <0,01 | Соответствует |
| 11 | Гидрокарбонаты | | 23268.3-78 | | 241,0 | |
| 12 | Окисляемость | | СТБ ИSO 8467-2009 | <5,0 | 4,80 | Соответствует |
| 13 | Сухой остаток | 4.4.1 | 18164-72 | <1000 | 269 | Соответствует |
| 14 | Минерализация | | | <1000 | 352,7 | Соответствует |
| 15 | Жёсткость,мг-экв/л | 4.4.1 | 4151-72 | <7,0 мг-экв/л | 4,30 | Соответствует |
| 16 | Водородный пок.pH | | СТБ ISO 10523-2009 | 6,0-9,0 | 7,84 | Соответствует |
| 17 | Запах(баллы) | 4.5. | 3351-74 | <2,0 | 0 | Соответствует |
| 18 | Вкус,привкус,(баллы) | 4.5. | 3351-74 | <2,0 | 0 | Соответствует |
| 19 | Цветность,(градусы) | 4.5. | 3351-74 | <20,0 | 6,58 | Соответствует |
| 20 | Мутность (мг/л) | 4.5. | 3351-74 | <1,5 | <0,1 | Соответствует |
| 21 | Кремний оксид | 4.4.1. | 1188-99 | <23 | 12,95 | Соответствует |

Исполнитель [подпись] Жардецкая Е.П.
Начальник [подпись] Попова Н.В.
25.04.2013 г.
Центральная лаборатория филиал РУП «БЕЛГЕОЛОГИЯ» г. Минск ул. Ботаническая, 9



| Катионы | Содержание в литре: мг | мг-экв. | проц. мг-экв. |
|---|---|---|---|
| $Na^{+}$ | 6,2 | 0,27 | 5,8 |
| $K^{+}$ | 2,2 | 0,06 | 1,3 |
| $NH_4^{+}$ | <0,1 | | |
| $Ca^{+2}$ | 60,3 | 3,01 | 65,0 |
| $Mg^{+2}$ | 15,7 | 1,29 | 27,9 |
| $Fe^{+2}$ | <0,05 | | |
| $Fe^{+3}$ | | | |
| Итого | 84,4 | 4,63 | 100 % |

| Анионы | Содержание в литре: мг | мг-экв. | проц. мг-экв. |
|---|---|---|---|
| $Cl^{-}$ | 12,6 | 0,36 | 7,8 |
| $SO_4^{-2}$ | 10,7 | 0,22 | 4,8 |
| $NO_3^{-}$ | 4,0 | 0,07 | 1,5 |
| $NO_2^{-}$ | <0,01 | | |
| $CO_3^{-2}$ | н/обн | | |
| $HCO_3^{-}$ | 241,0 | 3,95 | 85,9 |
| J | | | |
| Br | | | |
| F | | | |
| Итого | 268,3 | 4,60 | 100 % |

Минерализация 352,7 мг/л

Другие определения:
Жесткость (мг-экв/л) Общая 4,30
Устранимая
Постоянная
Карбонатная 3,95
Некарбонатная
PH 7,84
$CO_2$ свободная мг/л 4,4
эксперим.
$CO_2$ агрессивн.
выч. мг/л
Окисляемость мг $O_2$/л 4,80
$SiO_2$ мг/л 12,95
$H_2S$ мг/л
$Fe_2O_3$ мг/л <0,07
Сухой остаток при t° 110 269 мг/л
$Fe^{+++}$ общ. <0,05 мг/л

Физические свойства:
Мутность(мг/л) <0,1
Вкус(баллы)
Цветность(градусы) 6,58
Запах(баллы) 0
Осадок без осадка
Изменен. при стоян.

Примечание:
$Fe^{+2}$ - мг/л
$NH_4^{+}$ - мг/л

** Суммирование 1/2 $HCO_3^{-}$ мг/л 232,2
Аналитик Жардецкая Зав. хим.-аналит.лабор. Попова Н.В.
Дата 25 апреля 2013 г.

ФОРУМ

## Мядзведзеў едзе ў Мінск

*Прэм'ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў прыме ўдзел у Форуме дзелавых людзей дзяржаў — удзельніц Адзінай эканамічнай прасторы "Еўразійскі Эканамічны Саюз: чаканні бізнесу", які пройдзе ў Мінску 31 мая.*

*"Мы чакаем, што ў Форуме прымуць удзел і Дзмітрый Мядзведзеў, і прэм'ер-міністр Казахстана Серык Ахметаў",* — заявіў першы намеснік міністра замежных спраў Беларусі Аляксандр Міхневіч. Акрамя таго, па словах Міхневіча, чакаецца, што ўдзел у форуме прыме першы намеснік прэм'ер-міністра Расіі Ігар Шувалаў.

Таксама запрошаны Герман Грэф, прэзідэнт, старшыня праўлення Ашчаднага банка Расіі, Андрэй Косцін, прэзідэнт-старшыня праўлення банка ВТБ, Барыс Шпігель, група кампаній" Биотек" і іншыя бізнесмены, якія даўно трапілі ў спісы найбагацейшых людзей постсавецкай прасторы. Усяго, паводле папярэдняй інфармацыі, у форуме прымуць удзел каля 600 удзельнікаў, прадстаўнікі органаў улады і бізнес-супольнасці. Адначасова з форумам у Мінску пройдзе пасяджэнне кіраўнікоў урадаў краін АЭП.

## ФОТАФАКТ

Раскрыўшы таямніцу будоўлі дзяржаўнага значэння на праспекце Пераможцаў, Аляксандр Лукашэнка, здаецца, быў не да канца шчырым. Ён сказаў, што гэта будзе Палац Незалежнасці, а не ягоная новая рэзідэнцыя.

Аднак журналістам удалося зняць першыя работы на фасадзе аб'екта. Поўны надпіс можна дадумаць.

Цікава, што як толькі здымак з'явіўся ў інтэрнэце, то літары тэрмінова прыбралі з фасада. Затое з'явіліся новыя. Цяпер застаец-







З-ЗА КРАТАЎ

## Мікалай АЎТУХОВІЧ: Чаму апазіцыянеры адкідаюць галоўнае патрабаванне — аб поўнай рэабілітацыі палітвязняў?

Палітвязень даслаў чарговы ліст сябрам.

"Прайшлі ўсе святы, цуда не адбылося. Нават не магу ўявіць, адкуль узялася тая інфармацыя, якая дала спадзяванне родным на хуткае спатканне з палітвязнямі (5 мая на Вялікдзень, 9 мая на Дзень Перамогі). Калі штосьці і адбудзецца, я даведаюся пра гэта ў самы апошні момант. Гэта мне ўжо даводзілася праходзіць, я вязень з вопытам такога вызвалення. Але мне не падабаецца такая свабода. Я лепш сядзеў бы да канца, каб толькі не было магчымасці маніпуляваць маім лёсам, маімі пакутамі і выпрабаваннямі. Калі чалавек невінаваты, чаму нашы апазіцыйныя палітыкі адкідаюць галоўнае патрабаванне грамадскасці аб поўнай рэабілітацыі? Я праходжу гэтыя выпрабаванні з надзеяй, што гэта будзе выкарыстана на карысць будучыні нашага народа. А што робяць дэмакратычныя лідары? Дапамагаюць д'яблу гандляваць лёсам людзей?"

Наконт умоў утрымання Аўтуховіч паведамляе, што ў яго ўсё добра.

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

## Каких онкологий прибавляется?

*Самыми быстрыми темпами в Беларуси растет количество больных раком предстательной железы.*

За последние 20 лет заболеваемость раком простаты выросла почти в 6 раз! За 10 лет прирост новых случаев этого вида онкологии составил аж 126%. За пять лет количество ежегодно выявляемых новых больных выросло в 1,7 раза: с 1848 случаев в 2006-м до 3122 случаев в 2012 году.

К сожалению, 12,5% случаев рака предстательной железы выявляют на самой тяжелой 4-й стадии. В этой связи специалисты рекомендуют всем мужчинам от 50 до 65 лет раз в два года сдавать анализ на простат-специфический антиген. Это можно сделать в поликлинике по месту жительства либо обратиться в поликлинику и вас направят туда, где это можно сделать. В более раннем возрасте сдавать анализ тоже нужно, если рак предстательной железы был у родственников. После 65 лет такой анализ тоже нужно сделать, если вы не делали его раньше.



Прирост заболеваемости злокачественными новообразованиями 2003/2012

МУЖЧИНЫ

| Локализация | Прирост, % |
|---|---|
| Предстательная железа | +126,1 |
| Ободочная кишка | +51,8 |
| Почка | +51,5 |
| Кожа | +44,6 |
| Прямая кишка | +12,8 |
| Пищевод | +8,2 |
| Щитовидная железа | +2,7 |
| Желудок | -10,5 |
| Легкое | -11,1 |
| Губа | -37,2 |

ЖЕНЩИНЫ

| Локализация | Прирост, % |
|---|---|
| Пищевод | +66,7 |
| Кожа | +50,3 |
| Тело матки | +36,4 |
| Ободочная кишка | +27,8 |
| Мочевой пузырь | +15,8 |
| Шейка матки | +7,1 |
| Щитовидная железа | +5,7 |
| Прямая кишка | +0,6 |
| Губа | -7,7 |
| Желудок | -9,9 |



# Як «няпростых» людзей у Беларусі кідаюць за краты

*(“Народная Воля”, №№39, 40.)*

***Працяг журналісцкага расследавання ў сувязі з 10-сутачнай адсідкай за калючым дротам Дзмітрыя Галко***

## На сувязь не выйшлі...

*Кароткая гісторыя аб няўдалым спатканні з байцамі спецназа*

Згодна з інфармацыяй **Дзмітрыя Галко,** маладыя спартыўныя людзі ў цывільным, што затрымалі яго 6 мая недалёка ад станцыі метро “Міхалова”, былі супрацоўнікамі палка спецыяльнага прызначэння ГУУС. Вядомы імёны “герояў” — **Аляксей Гарошка** і **Віктар Жарскі**. Яны падчас суда былі сведкамі. Маладыя людзі пацвердзілі — Галко і яго таварыша **Аляксандра Ярашэвіча** варта было ізаляваць ад грамадства.

Па словах Дзмітрыя, падчас суда нечаканыя сведкі блыталіся ў паказаннях, няправільна апісвалі эпізоды. З боку Феміды шматлікія “недарэчнасці” заставаліся незаўважанымі, хоць узнікалі пэўныя пытанні. “Народная Воля” паспрабавала адрасаваць іх камандзіру палка спецыяльнага прызначэння ГУУС і начальніку Гарошка і Жарскага палкоўніку міліцыі **Аляксандру Лукомскаму**.

Спробы сустрэцца з фігурантамі справы ці з іх начальствам можна назваць сапраўдным “паляваннем”. Спачатку высветлілася, што адрас, які пазначаны ў гарадскім даведніку і па якім мусіць кватараваць полк, ужо некалькі гадоў займае іншая структура МУС. А спецназ пераехаў на вуліцу Герояў 120-й дывізіі, што знаходзіцца ў межах былога вайсковага гарадка ва Уруччы. Дарэчы, менавіта гэты адрас — Мінск, вуліца Герояў 120-й дывізіі, 42 — Гарошка і Жарскі ў судзе назвалі ў якасці свайго хатняга. Вось толькі да гасцей у такім доме ставяцца вельмі насцярожана.

Глухая сцяна бетоннага плота надзейна ахоўвае спецназ. Уваход для людзей і праезд транспарту — выключна праз КПП.

— *Вы па якім пытанні? Па асабістым?* — пытаецца пажылы ахоўнік, што сядзіць на КПП разам з маладым спецназаўцам. — *Нам гэта не цікава — проста калі вы акрэсліце пытанне загадзя, начальнік не будзе біцца як рыба аб лёд. У яго ж ёсць намеснікі, з аддзела кадраў, іншыя супрацоўнікі. Можа, вам неабавязкова да спадара Лукомскага. Вы ж яго можаце агарошыць нечаканым пытаннем і ён не будзе ведаць, як вам дапамагчы.*

**— Мы наконт аднаго з супрацоўнікаў.**

— *Скарга на дзеянне супрацоўнікаў? Звычайна ўсе жадаюць трапіць на прыём да начальніка, а можа, ваша пытанне вырашыць яго намеснік... Звычайна начальніка не так проста злавіць на месцы — то на адной нарадзе, то на другой...*

*Ведаеце, да нас аднойчы прыйшла жанчына. Кажа: “Мне трэба да галоўнакамандуючага!” Але ж галоўнакамандуючы ў нас — прэзідэнт...*

Урэшце высветлілася, што хоць афіцэры і прымаюць наведвальнікаў кожны будні дзень з 14.00 да 20.00, аказалася, што маё “асабістае пытанне” няма каму адрасаваць. Камандзір палка Аляксандр Валянцінавіч Лукомскі прымае наведвальнікаў толькі раз на тыдзень — кожную сераду.

На кантрольна-прапускным пункце мяне заверылі, што запісвацца на прыём да начальства не трэба, варта толькі прыехаць і, калі кіраўнік будзе на месцы, сустрэча адбудзецца. На жаль, на наступны дзень кіраўніка на месцы не аказалася.

— *Ён на калегіі*, — паведамілі новыя паставыя на КПП. —*Калі і будзе сёння, то позна, каля восьмай*.

Нечаканы паварот — учора ж клятвенна абяцалі, што сёння можна будзе знайсці кіраўніка на месцы.

Як бы там ні было, на КПП параілі не чакаць, бо, уласна кажучы, чакаць няма дзе, а доўгае таптанне каля часці невядомых грамадзянскіх асоб не вітаецца. Калі прыязджаць — можна паспрабаваць праз тыдзень. Але ніхто не гарантуе, што ў кіраўніка не будзе чарговай калегіі, нарады, схода...

Сустрэцца з Жарскім і Гарошкам таксама не атрымалася. На КПП малады спецназавец развёў рукамі — каб знайсці ў часці чалавека, аднаго прозвішча недастаткова. Пацiскалі плячыма і крэпкія маладыя людзі, што выходзілі з тэрыторыі палка. Маўляў, столькі падраздзяленняў, адкуль жа будзеш усіх ведаць.

Сфатаграфавацца на фоне часці палка спецыяльнага прызначэння таксама не атрымалася. Яшчэ ў першы дзень візіту суровы малады чалавек падкрэсліў, што здымаць КПП нельга і нават праверыў тэлефон — ці не паспелі там з’явіцца непажаданыя кадры.

Кіраўніцтва палка спецыяльнага прызначэння Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама на сувязь не выйшла. А таму пакуль засталіся без адказу многія пытанні.

Скажыце, спадары камандзіры, якое злачынства здзейснілі Галко і Ярашэвіч, што затрымлівалі іх, нібыта буйных рэцыдывістаў, супрацоўнікі спецназа? Часта спецназ ладзіць па горадзе аблавы на “матерщинников” ці Ярашэвічу і Галко проста “пашчасціла”? І чаму адзін са спецназаўцаў кінуў словы пра тое, што на блогера была нейкая наводка? Чаму людзі ў пагонах вымушаны займацца самай сапраўднай хлуснёй, каб кінуць на 10—15 сутак нявінных людзей за краты? Ці маюць службоўцы права адмовіцца ад выканання антызаконнага загада? Калі ў краіне скончыцца “паляванне” на апанентаў улады?

Гэтыя і многія іншыя пытанні хацелася задаць кіраўніцтву палка спецыяльнага прызначэння. Не ўдалося на гэты раз — буду спадзявацца, што ўдасца ў іншы раз. Адказаў чакаю не толькі я, іх, ведаю, чакаюць і многія чытачы “Народнай Волі”.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**





**На малюнках, зробленых падчас суда жонкай Д.Галко: зверху — спецназавец Аляксей Гарошка, знізу — Віктар Жарко.**

## Яўген ХАТКЕВІЧ: «Ніякіх размоў...»

*Карэспандэнт “Народнай Волі” паспрабаваў пагутарыць з суддзёй Яўгенам Хаткевічам, які выносіў прысуд Дзмітрыю Галко. Што з гэтага атрымалася...*

Да суда Маскоўскага раёна Мінска падыходжу бліжэй а 9-й гадзіне раніцы, аднак у будынак пакуль што не пускаюць. Кажуць: “З дзевяці”.

У 9.00 дзверы адчыняюцца. Даведваюся, дзе знаходзіцца кабінет суддзі Хаткевіча, аднак, перш чым патрапіць да яго, трэба прайсці яшчэ і бар’ер у асобе сакратаркі. Тая як адразае: *“Суддзі па асабістых пытаннях не прымаюць”.*

Шчыра кажучы, не хацелася адразу паказваць рэдакцыйнае пасведчанне, бо была нейкая надзея на шчырую размову. Таму, калі даведаўся, што Яўген Хаткевіч у гэты дзень будзе праводзіць выязныя слуханні спраў у ДАІ, вырашыў пад’ехаць туды.

Слуханні былі паказальнымі. Судзілі трох аўтамабілістаў, якіх у свой час пазбавілі права кіравання машынай, аднак яны ўсё роўна селі за руль. Ды яшчэ і нецвярозыя. На разгляд гэтых спраў для прафілактыкі запрасілі яшчэ і некалькі дзясяткаў іншых вадзіцелей, якія прыйшлі даведацца пра меры пакарання ў адносінах да іх за нейкія парушэнні правіл дарожнага руху.

Са злоснымі парушальнікамі суддзя Яўген Хаткевіч разабраўся даволі хутка — аднаму далі штраф у 40 мільёнаў рублёў, другому — 60 мільёнаў, трэцяму — 61 мільён.

**— Яўген Віктаравіч, я з “Народнай Волі”, хацеў бы пагутарыць з вамі**, — падышоў я пасля пасяджэння да суддзі на калідоры.

— Ніякіх размоў, — коратка адказаў той і накіраваўся ў кабінет скінуць мантыю.

**— Зусім нядаўна вы вынеслі рашэнне па справе Дзмітрыя Галко, і хацелася б, каб выказалі сваю грамадзянскую пазіцыю. Звяртаюся да вас не як да суддзі**, — зрабіў я яшчэ адну спробу выклікаць чалавека на шчырасць.

Пасля гэтых слоў Яўген Хаткевіч рэзка павярнуўся да мяне і рубануў:

— Вы рускую мову разумееце? “Не” — гэта азначае “не”.

**— А калі будзе дазвол на гутарку ад старшыні суда?**

На апошняе пытанне адказу ўжо не было...

Як бачым, у суддзі Яўгена Хаткевіча не хапіла мужнасці, каб патлумачыць журналісту, чаму ён кінуў за краты на 10 сутак вядомага блогера Дзмітрыя Галко. Мне ж хацелася спытаць у яго і наконт таго, чаму для яго прыярытэтнымі з’яўляюцца



сведчанні міліцыянераў, а не тых, каго яны прыцягнулі ў суд, а таксама сведак з іх боку. Няўжо Яўгену Хаткевічу не зразумела, што той жа Дзмітрый Галко, як культурны чалавек, ніколі не апусціцца да брыдкаслоўя на вуліцы. Любы сумленны чалавек ведае, што літаральна ўсе справы, звязаныя па гэтым артыкуле з маладымі людзьмі, якія нязгодны з дзеяннямі сённяшніх беларускіх улад, шыты, як кажуць, белымі ніткамі.

Сёння многія суддзі, як і Яўген Хаткевіч, заплюшчваюць на гэта вочы, выносяць, адкрыта скажам, сумніўныя рашэнні, а заўтра будуць скардзіцца ўсяму свету, што іх не пускаюць у Еўропу. Не пускаюць і не будуць пускаць. І не трэба крыўдзіцца, лепш задумайцеся, спадары суддзі, што вы творыце, каму служыце...

Вы, Яўген Хаткевіч, пазбеглі размовы з журналістам “Народнай Волі”. Але ці можна “пазбегнуць размовы” з уласным сумленнем? Калі яно ёсць.

**Сяргей ЗАПОЛЬСКІ.**

## У Маскоўскім РУУС правядуць праверку па факце публікацыі ў «Народнай Волі»

Кіраўнік упраўлення ўнутраных спраў Маскоўскага раёна сталіцы **Алег Шулякоўскі** даволі ветліва прыняў мяне ў сваім службовым кабінеце. І абсалютна шчыра прызнаўся ў тым, што... нічога не ведае пра абставіны затрымання журналістаў **Дзмітрыя Галко** і **Аляксандра Ярашэвіча**.

З аднаго боку, гэта зразумела. Маскоўскі раён — адзін з самых буйных адміністратыўна-тэрытарыяльных раёнаў сталіцы з чвэрцю мільёна чалавек жыхароў. Падначаленых у кіраўніка РУУС каля 400 чалавек і за кожнага адказаць цяжка.

Тым не менш менавіта начальнік павінен адказваць за работу падначаленых, якімі ён кіруе. Я паклала нумар “Народнай Волі”, у якой Дзмітрый Галко апісаў абставіны свайго затрымання, на стол Алега Шулякоўскага і папрасіла адказаць на пытанні, пастаўленыя ў артыкуле. Чаму ў дзяжурнай часці негуманна абыходзіліся з затрыманымі журналістамі? Чаму адмаўляліся выпускаць людзей у прыбіральню? Чаму не давалі магчымасці паесці ці нават выпіць вады?

Але адказу на гэтыя пытанні не было. Алег Шулякоўскі сказаў, што пакуль што не можа сказаць нічога канкрэтнага, але запэўніў, што па факце публікацыі будзе праведзена праверка. Пры гэтым кіраўнік РУУС не выключыў, што аўтар публікацыі мог сказіць факты, каб паказаць сябе ў лепшым свеце. Я ў сваю чаргу не выключыла, што ў лепшым свеце спрабуюць выставіць сябе міліцыянеры. Па крайняй меры, адказаць канкрэтна на пытанне, колькі чалавек у дзень яны затрымліваюць за нецэнзурную лаянку ў адным з самых вялікіх раёнаў сталіцы і колькі з гэтых затрыманых потым аказваюцца пад адміністратыўным арыштам, начальнік РУУС не здолеў. Ці не захацеў...

### Пратакол склаў...

На падставе рапартаў спецназаўцаў Жарскага і Гарошкі пратакол складаў супрацоўнік усё таго ж Маскоўскага РУУС **Дзмітрый Новік.** Але адшукаць яго аказалася значна цяжэй, чым ягонага начальніка.

Участковы інспектар Новік, як высветлілася, асоба проста няўлоўная. Прычым, якая працуе і за сябе, і за таго хлопца... Так, высветлілася, што, згодна са службовым раскладам, участковы Дзмітрый Новік павінен сачыць за парадкам на тэрыторыі вуліцы Розы Люксембург ад 114 па 178-ы дамы, прычым на цотным баку, а таксама на ўчастку, дзе месцяцца чатыры дамы (№№23,25, 27 і 29) на вуліцы Лермантава і скверык каля вуліцы Карпава. А вось журналістаў затрымалі каля станцыі метро “Міхалова”. Таму, здавалася б, пры чым тут спадар Новік? Можа, доблесны міліцыянер ужо навёў парадак на сваёй тэрыторыі, перамог у барацьбе з правапарушэннямі і з гэтай нагоды прыхапіў чужыя ўчасткі? Так ці не, але хацелася б пачуць адказ з яго ўласных вуснаў.

Паразмаўляць з гэтым пільным супрацоўнікам міліцыі хацелася б і таму, што менавіта ён абвінаваціў затрыманых у дробным хуліганстве. Менавіта ён праявіў усю сваю прафесійную годнасць і склаў пратакол на людзей, якіх затрымалі далёка за межамі тэрыторыі, за якую ён адказвае. Такім чынам, кропка яшчэ не пастаўлена... Па даручэнні рэдакцыі я ўсё ж зраблю ўсё, каб убачыцца з участковым інспектам Дзмітрыем Новікам. Чытачы “Народнай Волі” павінны ведаць, як кажуць, у твар кожнага “героя” гучнай судовай справы.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ**

*Гісторыя першая*

## Нямы... загаварыў

“Справа Дзмітрыя Галко”, якую “Народная воля” вырашыла раскруціць з усіх бакоў, міжволі навяла на некаторыя ўспаміны. Вы, шаноўныя чытачы, помніце, як 20 снежня 2010 года затрымалі глуханямога, які, па сведчанні міліцыянераў, “выкрыкваў антыдзяржаўныя лозунгі”? Тая гісторыя стала адным з айчынных цудаў, пра якія пісалі не толькі беларускія СМІ.

21 снежня праваабаронцы сталі сведкамі ва ўсіх сэнсах выбітнога судовага працэсу. У суд Цэнтральнага раёна быў дастаўлены грамадзянін **Сяргей Антонаў.** Згодна з міліцэйскім пратаколам, ён удзельнічаў у несанкцыянаванай акцыі і выкрыкваў антыдзяржаўныя лозунгі “Жыве Беларусь!”. На пытанне суддзі, ці так усё было, Сяргей Антонаў адказаць не мог. Ён і пытанне не адразу зразумеў. Высветлілася, што Сяргей Антонаў практычна глухі, ён ходзіць з моцным слыхавым апаратам і чуе вельмі дрэнна. Чужую гаворку часткова можа разабраць па вуснах, а калі сам спрабуе гаварыць голасам, то атрымліваецца ціха і вельмі невыразна — як, дарэчы, большасць глухіх.

Праваабаронцы адразу паднялі вэрхал: судзіць нямога чалавека за тое, што выкрыкваў лозунгі, — гэта ж проста здзек з розуму.

І што вы думаеце, можа, суд апраўдаў Сяргея Антонава? Можа, яму выплацілі кампенсацыю за тое, што схапілі, кінулі ў аўтазак, ноч пратрымалі пад арыштам на падставе абсурдных сведчанняў міліцыянераў? І блізка не! Праўда, паколькі справа адтрымала імгненны рэзананс у інтэрнэце і нават выйшла за межы Беларусі, яе накіравалі назад у міліцыю, “на дапрацоўку”. А там ужо, нарэшце, знайшоўся нехта, хто прыняў рашэнне далей не ганьбіць форму.

Сам Сяргей Антонаў увогуле дрэнна разумеў, што адбылося. Ён пісьмова сцвярджаў толькі адно:”Я не мог крычаць”.

*Гісторыя другая*

## Не вер вачам

Яшчэ адна судовая гісторыя, якая ўвойдзе ў аналы беларускай судовай сістэмы, адбылася з былым кандыдатам у прэзідэнты Аляксандрам Казуліным.

Гэта было ў маі 2010 года, калі Аляксандр Казулін ішоў з суда над Мікалаем Аўтуховічам, Уладзімірам Асіпенкам і Міхаілам Казловым. Ішоў разам з праваабаронцай Раісай Міхайлоўскай. І тут двое ў чорным і з налепкамі “Спецназ” падышлі да яго і ўзялі пад рукі. “Пройдемте!” Сведак гэтага інцыдэнту было шмат, журналісты нават паспелі зафіксаваць на фота, як адбывалася затрыманне і хто затрымліваў.



Назаўтра “Народная Воля” выйшла з фотаздымкамі, на якіх добра відаць твары ўсіх дзеючых асоб. Але на суд з’явіліся зусім іншыя міліцыянеры і засведчылі суддзі Ленінскага раёна **Міхаілу Хому:** “Затрымалі грамадзяніна Казуліна за тое, што ён лаяўся матам”.

“Не было такога”, — засведчыла Раіса Міхайлоўская.

“Не было такога”, — засведчыў палітык Вячаслаў Сіўчык, які таксама быў сведкам здарэння.

“Я ўвогуле не ведаю гэтых міліцыянераў, яны лжэсведкі, мяне затрымлівалі зусім іншыя людзі, вось самі паглядзіце”, — і Аляксандр Казулін даў суддзі газету з фотаздымкамі свайго затрымання.

Тым не менш рашэнне суда — Казулін вінаваты. Суддзя Міхаіл Хома паверыў паказанням міліцыянераў, якія нават не прысутнічалі пры затрыманні.

*Гісторыя трэцяя*

## Дома сядзеў...

Напярэдадні Дня волі ў 2008 годзе прама ў майстэрню да мастака Алеся Марачкіна ўвалілася група амапаўцаў. Не маючы ніякіях санкцый, фактычна правялі вобшук, забралі расцяжкі і плакаты, падрыхтаваныя да акцыі, самога мастака арыштавалі.

На судзе высветлілася, што Алесь Марачкін, якога затрымалі не ў грамадскім месцы, а ў кватэры-майстэрні (іншымі словамі, чалавек наўпрост сядзеў дома), таксама лаяўся матам. Тым не менш суддзю суда Цэнтральнага раёна **Таццяну Паўлючук** у гэтай гісторыі нічога не засмуціла і яна накіравала мастака ва ўсё той жа ізалятар на вуліцы Акрэсціна.

І, дарэчы, менавіта там Алесь Марачкін напісаў паэму “Акрэсціна”, якая днямі выйшла ў выдавецтве “Логвінаў”. Вось яе радкі:

*Запозна... Ночанька закрэсьлена,*
*Мяне прывезлі на Акрэсціна.*
*Прытулак нашай апазіцыі.*
*Твар да сцяны — мая пазіцыя.*

*Гатовы я тут жыць і спаць.*
*Ня гэтак страшна — сутак пяць*
*Тут есці кашу, баланду...*
*Ганяць па камеры балду.*

*Жыццё ня дужа мяне песціла.*
*О! Гэта “мілае Акрэсціна!”*
*У іх вачах я брыдкі, гадкі.*
*Спазнаў Акрэсціна парадкі.*

*Навокал краты і мянты.*
*Нарэшце апынуўся ты*
*У тым “шматзорачным гатэлі”.*
*Як нас кармілі? Што мы елі?*

*Як тыя парсюкі ў загоне.*
*Вусач галоўны, хто на троне,*
*Баюн РБ, наш дырыжор —*
*Ў жыцці такога ён ня жор.*

*От, каб да нас яго сюды!*
*Хоць бы на тры якіх гады.*

Магчыма, і жорсткая канцоўка, але ж трэба зразумець таго ж Алеся Марачкіна, які ні за што апынуўся за кратамі. І не ён збэсціў уладу, яе збэсцілі тыя ж амапаўцы, тая ж суддзя...

**Алена НОВІКАВА.**

## Ад рэдакцыі

*“Народная Воля” працягне аналізаваць сітуацыю з арыштам нашага пастаяннага аўтара Дзмітрыя Галко нібыта за нецэнзурную лаянку.*

*Адвакаты, праваабаронцы, юрысты пакуль не знайшлі дзейснага інструмента барацьбы з падобнымі выпадкамі. Па іх словах, інструмент даўно закладзены ў законе. Па законе, міліцыянеры на такіх судах могуць выступаць сведкамі толькі ў выключных выпадках (напрыклад, калі правапарушэнне было здзейснена недзе на пустыры, на якім няма людзей). У тэорыі сведкамі на такіх працэсах павінны быць звычайныя мінакі, якія чулі, бачылі, пацвярджаюць, што мацяршчыннікі сапраўды былі, што міліцыянеры іх спрабавалі супакоіць і арыштавалі толькі пасля таго, як іх папярэджанні не мелі ўплыву. Але ж судовая практыка далёкая ад тэорыі, закон не працуе. Чаму не працуе? Чым тлумачаць гэта “галоўныя героі”? Знайсці адказы на звышвострыя пытанні — такую задачу паставіла перад сабою “Народная Воля”.*

*З другога боку: як адбіваецца гэта на грамадска-палітычнай сітуацыі краіны? Якія маральныя, псіхалагічныя, эканамічныя страты нясуць пацярпелыя? Хто адкажа за беззаконне, якое творыцца ўжо не першы год? Калі Беларусь стане дэмакратычнай, калі дзяржаўныя асобы будуць паважаць правы чалавека?*

*Гэтыя і многія іншыя пытанні знаходзяцца ў цэнтры ўвагі “Народнай Волі”. Таму журналісцкае расследаванне будзе мець працяг.*

ТЕМА ДНЯ

# Побеждает... коррупция

В последнее время в стране активизировалась борьба с коррупцией. Сообщения о делах против проворовавшихся чиновников приходят практически каждый день. То и дело разоблачаются окопавшиеся в "вертикали" "мафии и банды". В интересном ключе была упомянута эта тема и в Послании белорусскому народу и парламенту. *"Все верующие. Посмотрю иногда на вас в храме — думаю, сейчас бросятся на пол и будут лбом о пол стучать. Свечки держат в руках. Если вы приходите в храм и так рьяно молитесь, так преданы этим идеалам, зачем же вы воруете, зачем плохо работаете?"* — сказал А.Лукашенко. *"Если хотите жить в своей стране, не хотите ее потерять, не хотите, чтоб вас народ просто вышвырнул, и меня вместе с вами, из этих кресел, — давайте почеловечески работать",* — предложил как-то президент белорусским чиновникам, о чем сообщал "Интерфакс — Запад". Ну и обычные антикоррупционные призывы звучат все чаще.

Однако до победы над коррупцией, судя по всему, еще далеко. Вернее даже как раз коррупция и побеждает пока. Наш руководитель шел на свой первый срок под лозунгом борьбы с коррупцией, теперь может пойти на четвертый, а этот лозунг еще более актуален, поскольку масштабы коррупции в стране не только не снизились, но даже возросли, во всяком случае если судить по прессе. СМИ и официальные и "неофициальные" переполнены такими материалами. И это уже действительно становится опасным для дальнейшего существования режима. Отсюда и опасения, что могут "вышвырнуть".

Во-первых, коррупция сводит на нет даже куцую белорусскую модернизацию. Мало того, что эта "модернизация" не предусматривает ни структурных реформ, ни рыночных подходов в продвижении товаров, так коррупция еще и тормозит, а зачастую и вообще блокирует, даже элементарное обновление "железа".

Взять, к примеру, ту же деревообработку, деньги потрачены, сроки завершения модернизации сорваны, эффект от нее пока близок к нулю. Правда, глава государства уже похвастался, что введение "крепостного права" исправило ситуацию, но экспортная статистика и показатели прибыли прорыва пока не фиксируют, скорее, даже наоборот.

Или вот энергетика. На ее модернизацию выделено семь миллиардов долларов, но "осваиваются" пока только деньги, сам же процесс далек от завершения. Один только пример. Следователи собирают доказательства как на территории Беларуси, так и России и Украины. По делу о срыве сроков поставки и ввода в эксплуатацию паротурбинной установки для реконструкции энергоблока №5 Березовской ГРЭС признаны подозреваемыми ряд должностных лиц государственного производственного объединения "Белэнерго" и открытого акционерного общества "Белэнергоснабкомплект". Об этом БЕЛТА сообщили в отделе информации и связи с общественностью Следственного комитета.

Ни одна крупная стройка не обходится без масштабного воровства и коррупции. А потом построенное начинает быстро разваливаться, как сейчас в Горках, где недавно проводились "Дажынкі" и в марафет которых были вбуханы миллиарды рублей.

Сельское хозяйство вообще напоминает "черную дыру", которая может поглотить без следа и заметного положительного эффекта абсолютно любые деньги.

И так практически по всем направлениям "модернизации", деньги "осваиваются", а должного положительного эффекта нет. Только долги государства растут.

Во-вторых, коррупция, как ржавчина, разъедает и саму основу режима, его властную "вертикаль". Насквозь коррумпированный режим не может существовать долго. Ведь его "винтики" служат уже не "главному", а только своим меркантильным интересам. Поэтому все указания "сверху" начинают саботироваться, руководством к действию теперь является собственный коррупционный интерес, а не "верховный отец". Да, на первом этапе управляемая коррупция даже цементировала систему. Сначала "винтики" служат тому, кто не препятствует воровать и брать взятки. Но потом они уже служат только воровству и взяткам, фактически игнорируя того, кто их и допустил к "кормушке". И, когда Рубикон перешли, система уже перестает работать. Еще относительно ничего богатым странам, но нашей стране денег катастрофически не хватает, а все большая часть из того, что пока еще удается наскрести, уходит в карманы коррупционеров, уходит на глазах у народа, подогревая и так непростую ситуацию в обществе. Коррумпированный "вертикальщик" теперь совсем не опора режиму, наоборот, он в любой момент может предать, особенно если предложат значительную сумму.

К тому же в "тяжелые времена" коррупционная "болезнь" имеет тенденцию к обострению. Наблюдая деградацию системы и испытывая недостаток "ресурсов", пораженная коррупцией "вертикаль" обычно отбрасывает всякое стеснение и начинает "хапать" с утроенной силой. Видимо, спешат успеть до конца, но тем самым как раз и приближают конец системы. А то и приводят к оному, если "болезнь" успела поразить все "жизненно важные органы". Аналогичную ситуацию мы наблюдаем и у нас. На фоне усугубляющегося кризиса масштабы коррупции только растут, тем самым приближая закономерный в таком случае конец.

Так что можно сказать, что режим побеждает не оппозиция, режим уничтожает коррупция. Взлет нынешнего руководителя страны начался с доклада о борьбе с коррупцией. Его закат, похоже, начинается с победы коррупции.

И белорусский лидер, похоже, это уже чувствует, но спохватился, весьма вероятно, поздновато. В свое время он сам себя убаюкал сказками, что коррупция у нас, в отличие от соседки, почти побеждена и упустил время. А теперь метастазами поражен весь организм. Удастся ли вылечить, весьма сомнительно.

**Юрий ПШЕННИК, минчанин.**

ЗАДУМАЕМСЯ!

## Каб памяць была трывалай...

Чалавечы век абмежаваны ў часе. Рана ці позна мы праводзім у апошні шлях сваіх дзядоў і бацькоў. Аплакаўшы родных, выказаўшы словы жалобы і падзякі, збіраем па крупінках факты іх жыцця, захоўваем фотаздымкі, дакументы, узнагароды, асабістыя рэчы. Усё гэта перадаецца наступнікам, а часам і папаўняе мясцовыя краязнаўчыя музеі.

А яшчэ мы, згодна традыцыі, устанаўліваем на магілах крыжы, заказваем гранітныя помнікі. Падпісваем іх звычайна па-руску, радзей — па-польску, і зусім рэдка — на беларускай мове. Як быццам нашы бацькі і матулі былі прыезджымі аднекуль людзьмі, а не на на гэтай зямлі нарадзіліся, узрасталі, спаўнялі сваё чалавечае прызначэнне.

Вы скажаце, што нябожчыкам усё роўна? Што ў лепшым свеце іх не хвалюе зямное, дробнае? Магчыма. Але падумаем пра тых, што прыйдуць на клады пасля нас і прачытаюць імёны продкаў.

Давайце ж пазбавімся каланіяльных звычак, аўтаматычнага выканання правілаў, якіх насамрэч ніхто не прапісваў. Ні царква, ні касцёл не рэгламентуюць таго, што з'яўляецца добрай воляй верніка ці проста грамадзяніна. Наш абавязак — імёны дарагіх нам людзей пісаць на мове гэтай зямлі. Каб мы маглі без нацяжкі сцвярджаць: "Наш род — як дуб, а карані з мінулага ў нашы дні..."

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**
*Мінск.*

ОБСУДИМ

# *Народный референдум:* Необходим!

У конкурента, с которым борется оппозиция, наиболее слабое и видимое звено — социально-экономическое положение в стране. Ведь для белоруса свобода, какие-то политические права, как показывают последние 18 лет, дело не первостепенное. Как тут не вспомнить пророческие слова: "Рабу мила его тюрьма, и не нужна ему свобода! Такая уж у нас порода: и люди есть, но нет народа!". Поэтому хоть как-то "достучаться" до трудящихся нужно прежде всего через "желудок".

Кстати, даже самые простенькие на вид вопросы, без всякой политической подоплеки, внесенные в референдум, но очень актуальные для населения, на дух будут непереносимы властью и вызовут жесточайшую контрпропаганду.

Понятное дело, если ставить вопрос ребром, и требовать, например, "отменить решение предыдущего референдума, позволяющее избираться на пост президента более двух сроков", то стареющая мадам Ермошина и ее бэк-вокал, до порога Центризбиркома авторам инициативы просто не дадут дойти.

А вот если внести предложение, касающееся каждого человека, напрямую затрагивающее жизнь наших с вами детей, то власти сложно будет дискредитировать авторов идеи референдума. Предлагаю вынести на народное голосование такой вопрос: — "Детей до 16 лет при невозможности лечить в Беларуси отправлять за границу на лечение за счет бюджета Министерства здравоохранения". Сразу сказать "нет" у власти не получится, ведь нестыковочка выйдет: наше государство, по словам "всенародноизбранного", только и знает, что печется о здоровье подрастающего поколения. Вот и спрашивается, на фига нам такая власть, которая лжет?! Но все это тактика предполагаемых действий, а пока поговорим о стратегии.

Радует, что В.Некляев, А.Милинкевич, А.Янукевич приняли решение по проведению народного референдума на фоне ближайших избирательных кампаний. Убежден, что к ним подключится и БСДП "Г", не исключаю, что не останется в стороне и "Справедливый мир". А с несогласными можно сразу сдаваться в плен!

Безусловно, референдум очень трудное, затратное дело. Собрать на начальном этапе 450 тысяч подписей — очень сложно. Но другого пути завоевания оппозицией уважения простых людей, решения для них хотя бы нескольких злободневных проблем, нет. В конце концов только так можно расшевелить наш "памяркоўны" народ.

А.Санников "в письмах издалека", в комментарии на инициативу по проведению референдума сказал, что, значит, инициаторы этого действия признают, что выборы в стране все-таки есть.

Да не такие они глупые, чтобы не понять, что демократические выборы в Беларуси напрочь отсутствуют. Просто можно еще долго сидеть и ждать, когда они наконец-то появятся. Именно референдум может показать, что с такой властью народу не по пути.

Кстати, хочу спросить уважаемого мною А.Санникова: что, два года назад были настоящие выборы? То-то и оно. Чего тогда, с какой целью шли на них тот же Санников, Статкевич, Романчук и другие?! Со скептицизмом относится к идее проведения референдума аналитик Усов. Мол, какие вопросы можно выносить на референдум, есть и в партийных документах. Да, есть. Но, по Конституции, вопросы, изменяющие систему власти, бюджетно-финансовую систему страны, выносить нельзя. Однако власть не в силах будет ответить на любой простой вопрос, почему, например, как грибы растет количество хоккейных дворцов, а клюшка для игры стоит несколько сотен долларов и так далее.

На "Белсате" посмотрел беседу В.Мацкевича и А.Лебедько по поводу объединения трех структур для проведения народного референдума. Из уст А.Лебедько, от которого ожидал какого-нибудь анализа, узнал, что в зданиях и политике есть коридоры, и подписанные 14 лет назад распоряжения президента не выполняются. Глубокий анализ.

Пусть уже ОГП во главе с А.Лебедько более основательно занимаются праймеризом. О его предыдущих, в соответствии с внутренним праймеризом кандидатах: А.Лукашенко и Я.Романчуке каждый может судить сам.

Думаю, объявленное решение движения "Говори правду!", руха "За свободу" и Партии БНФ по народному референдуму должно стать началом консолидации и совместной работы сил, не удовлетворенных положением дел в стране.

Нужно ведь когда-то начинать, делать что-то конкретное, а не заниматься внутривидовой возней в оппозиционной среде и, как следствие, изрядно надоевшей всем говорильней и болтовней! Проведение референдума будет только действовать на "позитив", да и после выхода из тюрем Н.Статкевичу, Н.Автуховичу, Д.Дашкевичу, П.Северинцу и другим будет проще разобраться кто за красных, кто за белых, за зеленых и голубых.

Да и появится возможность у "абыякавага да жыцця" белорусского народа хотя бы в толпе подать голос. За нормальную и достойную жизнь!

**Валерий ФРОЛОВ, генерал, депутат Палаты представителей 2-го созыва.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Адкуль прыйшоў у МУС Аляксандр Кобрусеў?

***Тыдзень таму ў міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча з'явіўся новы намеснік па кадравай і ідэалагічнай працы. Распавядзіце, калі ласка, адкуль ён, колькі яму гадоў і дзе працаваў раней?***

**Ірына АНДРЭЕВА, Мінскі раён.**



Аляксандру Кобрусеву 45 гадоў. Ён скончыў Курганскае вышэйшае ваенна-палітычнае авіяцыйнае вучылішча ў 1989 годзе, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт у 1997 годзе. Пасля заканчэння вучылішча нёс службу ва Узброеных сілах на пасадах афіцэрскага складу. У органах унутраных спраў — са снежня 1992 года, пачынаў інспектарам групы выхаваўчай работы аддзела кадраў УУС Гомельскага аблвыканкама, затым працаваў старэйшым інспектарам, старшым інспектарам па асаблівых даручэннях у падраздзяленнях аддзела кадраў УУС. У 1998—2002 гадах быў памочнікам начальніка УУС Гомельшчыны, затым узначаліў штаб абласнога ўпраўлення. У ліпені 2004 года быў прызначаны намеснікам начальніка УУС Гомельскага аблвыканкама — начальнікам упраўлення кадраў (статс-сакратаром). Апошнія гады быў афіцыйным прадстаўніком МУС у пасольстве Беларусі ва Украіне.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Скажаш не ў масць — хлеба не дасць

**Дзіўны парадокс: паводле апытанняў, дабрабыт і рэальныя даходы беларусаў зніжаюцца, а давер да кіраўніка краіны трымаецца, можна сказаць, на адным і тым жа ўзроўні...**

*У сціплай гарадской кватэры*
*Жыла сям'я каторы год.*
*І явай — быт будзённа-шэры,*
*Хапала радасці й турбот.*
*Аднак жа, як бывае ў хаце,*
*Прайшоў "сямейны крыгалом":*
*Дачка і сынраслі без маці,*
*Раслі пад бацькавым крылом.*
*Яшчэ калі гулялі ў цацкі,*
*Затым пайшлі і ў першы клас,*
*Быў рэмень у руках у бацькі.*
*Іх лупцаваў ён. І не раз.*
*Як падраслі ўжо дзеці троху,*
*Іх ставіў на калені ў кут,*
*Насыпаўшы туды гароху.*
*І дзеці мелі шмат пакут.*
*Як стукнула дачцэ і сыну*
*Ажно па чатырнаццаць год,*
*Дыктатар-бацька за правіну*
*Мог і кулак пусціць у ход.*
*Дадаткам бацька іх суровы*
*Не раскашэльваўся зашмат*
*І дзецям не купляў абновы —*
*Насілі вопратку да лат.*
*Сябры-сяброўкі мелі "шмоткі"*
*З кляймом заморскім,*
*А яны*
*Насілі простыя калготкі*
*Ці палатняныя штаны.*
*Хваліліся падлеткі ў школе,*
*Што часта ездзяць за кардон.*
*Яны ж, няшчасныя, ніколі*
*Не пакідалі свой раён.*
*Гурмой равеснікі хадзілі*
*На дыскатэкі і ў кіно...*
*Для іх малюнак быў адзіны —*
*Што ў тэлевізары відно.*
*Ва ўсім якіясь забароны:*
*Там не ступі, туды не збоч.*
*Жыццё — як пляц вайсковы роўны,*
*Адно і тое ж дзень і ноч.*
*Для іх увогуле кватэра*
*Казармай стала акурат.*
*А бацька ў ёй — за афіцэра,*
*І што ні слова, то загад.*
*Такое рэдка ўбачыш дзесьці,*
*Калі дзіцёнак — як халоп...*
*І ўсе дзівіліся, што дзеці*
*Хвалілі бацьку наўзахлёб.*
*Маўляў, ён справядлівы самы*
*І самы шчодры на зямлі,*
*І не шкадуем, што без мамы*
*Мы гадаваліся-раслі.*
*Маўляў, дарма, што як аскеты*
*Жывём мы ўжо каторы год.*
*У нас няма такое мэты —*
*Мець шмат раскошы і даброт.*
*Аднак давалі мала веры*
*Тым словам школьныя сябры:*
*Нудзіцца сэнс які ў кватэры,*
*Калі кіпіць жыццё ў двары?*
*Ну што за шык жабрацкі гэткі —*
*Насіць рыззё і лахманы,*
*Калі суседзі і суседкі*
*Па вулках ходзяць як паны?*
*І неяк у дачкі і сына*
*Наўпрост спытаўся педагог:*
*— Якая жісная прычына*
*Таго, што бацька вам — як Бог,*
*Хоць ён суровы і пануры,*
*У ход пускае кулакі,*
*Трымае вас у "чорнай скуры"?*
*Чаму настрой у вас такі?*
*Нарэшце шчыра мовіў хлопец,*
*Адкрылася яго душа:*
*— Каб боль пазначыць —*
*Слоў не хопіць,*
*Аднак мы думаем спярша.*
*Пярэчыць бацьку нам не трэба*
*Ці штось казаць яму не ў масць:*
*Пакуль што ёсць кавалак хлеба,*
*Дык і таго, крый бог, не дасць...*

АТЫ-БАТЫ

# Как я за месяц стал командиром танкового взвода

Срочную службу в Вооруженных силах Республики Беларусь я прошел более 10 лет назад в Управлении международного военного сотрудничества Министерства обороны РБ, имея высшее лингвистическое образование. А рассказать хочу о военных сборах.

Я лейтенант запаса, и меня родина призвала в кузницу военных кадров нашей страны — в военный городок Печи, что под Борисовом. В военном комиссариате, где я состою на учете, решили, что из переводчика запросто можно сделать командира танкового взвода. Видимо, наша страна действительно остро нуждается в "профессиональных" командирах-танкистах... Кстати, танк я видел не раз, но всего лишь по телевизору...

Морозным мартовским утром несколько десятков резервистов из Могилевщины доставили в Печи, где к нам присоединились коллеги из Гомельской области. В общей сложности получилась учебная рота, состоящая из 70 человек, которую разделили на 3 взвода. Офицерам запаса нашего взвода (18 человек) предстояло стать командирами танковых подразделений, другим — командирами мотострелковых взводов. Народ был призван самый разный — как по социальному статусу, так и по возрасту. Однако объединяло нас всех одно: 98% никогда в жизни даже не видели в живую настоящую боевую технику, не говоря уже о том, чтобы управлять ею.



**Будущие командиры танковых взводов.**

72-й гвардейский учебный центр по обучению прапорщиков, сержантов и специалистов встретил нас с распростертыми объятьями: нам выдали обмундирование, разместили в теплой казарме (кстати, постройка 1936 года), поставили на довольствие и т.д. Обращались к нам на "вы", называя "товарищами офицерами", что непомерно льстило, ведь никто из нас никогда не был, по сути, настоящим офицером, не считая нескольких бывших сотрудников милиции. Все мы слышали о военных сборах много и по-разному, ожидая, откровенно говоря, относительно вольной жизни, т.е. пустой траты времени. Но суровые армейские будни мы ощутили уже на второй день нашего пребывания. Пришлось вспомнить и строевую, и субординацию, и как пришивать белую тряпочку (подшиву) на воротник кителя, и многое другое. А на третий день у нас был праздник. Десять боевых товарищей из нашей роты принимали присягу. Правда, некоторые из них проходили этот торжественный ритуал в третий раз за свою жизнь. А почему так происходило, объяснить вразумительно никто не мог.

За наше обучение взялись более чем серьезно. Шесть дней в неделю занятия начинались в 8.50, а заканчивались в 18.50. Конечно, был предусмотрен перерыв 10 минут после каждого часа занятий, естественно, выделялось время и на прием пищи. В обязательном порядке с нами проводилась идеологическая подготовка, демонстрировались красивые документальные фильмы, стимулирующие появление чувства гордости за наши Вооруженные силы. Также обязательно мы должны были смотреть такие передачи, как "Панорама" и "Арсенал". За первую неделю обучения "достала" теория: конспектировали лекции по всевозможным фундаментальным военным наукам, таким как стратегия, топография, тактика и т.д. Нашей настольной книгой стал боевой устав! В общем, у преподавателей стояла первостепенная и непростая задача — научить нас воевать и командовать своим подразделением. И мы буквально стонали под тяжестью "гранита науки". Дело осложнялось тем, что ни мы, ни преподаватели не знали, какой результат получится из этого экспресс-курса обучения, ведь такой методики мгновенного перевоплощения юристов, экономистов, инженеров и строителей в танкисты не видывали еще наши Вооруженные силы. Да и мы, по правде говоря, не тянулись особо к знаниям. Это был своего рода эксперимент, думается, стоивший немало денег нашему государству. Например, в нашей Военной академии командиров готовят 4 года, а во время Великой Отечественной войны простых танкистов обучали 3 месяца... Сейчас же, в мирное время, родина обещает сделать командиром танкового взвода всего за 1 месяц.

По поводу быта. Стоит отметить, что кормили нас по армейским меркам очень даже неплохо. В расположении поставили теннисные столы, принесли штангу, гири, к телевизору подключили DVD-проигрыватель. Однако шанс воспользоваться такой армейской роскошью выпадал нам только за несколько часов до сна, да еще в воскресенье после обеда. Ведь наш распорядок дня был расписан буквально по минутам. Дисциплина у нас была армейской: в увольнения отпускали только на сутки, а поход на "волю" в магазин осуществлялся строго в сопровождении местных офицеров, дабы мы даже не думали позариться на горячительные напитки.

Вторая неделя наших сборов ознаменовалась началом глобальной практики. Сначала нам показали, как выглядит настоящий танк, научили, как правильно залазить внутрь и выбираться оттуда, а также, как безопасно открывать и закрывать 70-киллограмовые люки, чтобы не оставить свои фаланги пальцев снаружи. Затем несколько занятий нас "дрессировали" на тренажерах, имитирующих вождение на танке. И, как закономерный итог, мы сдавали зачет по вождению на настоящем танке Т-72. Одно дело, когда ты стоишь возле груды рычащего металла весом более 40 тонн, тогда тебе просто страшно. Но совсем другие ощущения ты испытываешь, когда садишься на место механика-водителя, где ну очень ограниченное пространство, которое еще и наглухо отрезается от внешнего мира 90-киллограмовым люком (мне повезло лишь в том, что у меня комплекция танкиста, а ведь некоторые мои коллеги с большим трудом залазили в танк, имея свыше 180 см роста и более 100 кг веса). А там, внутри, спросить совета не у кого, там надо не растеряться и найти в себе силы, чтобы довести этот гусеничный "корабль" до финиша, выполнив определенные упражнения. Каждый из нашего взвода справился с этой задачей неплохо, преодолев почти двухкилометровый участок пути. Жертв и разрушений в округе не было.

Как раз в день зачета по вождению к нам пожаловал проверяющий из Генштаба Министерства обороны, который был, мягко говоря, разочарован и обескуражен двумя обстоятельствами. Во-первых, тем, что никто из нас не служил в танковых войсках, а во-вторых, тем, что я не смог ему ответить правильно на вопрос, когда у нас в стране отмечается День танкиста... Недоумение в глазах генерала было искренним...

В любом случае изначально надо было понимать, что эта затея с "превращением" гражданских специалистов в командиров танковых подразделений была идеалистичной. В процессе этих военных сборов все прекрасно понимали, что из обучения по принципу "галопом по Европам" ничего толкового не выйдет. Хотя все преподаватели и, в частности, наш командир взвода (опытный танкист) гвардии подполковник Андрей Анатольевич Сиднев, приложили немало усилий. Ведь за такой короткий промежуток времени даже водителем легкового транспорта не становятся! Да, можно сказать, у нас получилось управлять танком, да, мы пробовали стрелять по мишеням из танкового пулемета, да, мы ходили на полигоны, пытаясь разобраться в тактике, стратегии, инженерной науке и т.д. И, наконец, мы сдали экзамены. Однако мы даже близко не овладели познаниями, которые жизненно необходимы командирам. Вероятнее всего, наше обучение было нужно для "галочки" каким-то полковникам. Я уверен, что в недалеком будущем мы будем призваны на учения, где придется продемонстрировать высший пилотаж управления боевым подразделением. Тем не менее нельзя утверждать, что время, проведенное на военных сборах, было потрачено впустую. Каждый из нас, несомненно, получил некоторый полезный опыт и определенные знания. Но я считаю, что каждый должен заниматься своим делом...

**Виктор БЫСОВ.**
*Могилевская область.*

НЕ МОГУ МОЛЧАТЬ!

## Волонтеры, где вы?

Прочла статью "В казенном доме" неравнодушного человека Леонарды Юргилевич, и очень жаль стало старых и больных людей, не имеющих возможностей в теплые майские дни побывать на свежем воздухе: по причине неудобных кроватей в больнице сестринского ухода.

Не является секретом, что во многих наших больницах не хватает медперсонала и что уход за больными осуществлять некому. А ведь известно, что хороший уход не менее важен для больного человека, чем само лечение. Отчего же тогда местные чиновники не могут помочь в решении данной проблемы, и в первую очередь приобрести более удобные кровати для лежачих больных? Или органов здравоохранения в указанном поселке уже не существует?

Наши многие государственные СМИ часто говорят о роли молодежи — членов БРСМ, в том числе и в помощи старым и больным людям. Так почему бы им не подключиться и на деле доказать, что они чем-то полезны обществу?

И тогда, возможно, казенный дом станет для кого-то родным?..

**Розалия РУБИНЧИК, пенсионерка.**
*Минск.*

## Вакацыі: час падвучыцца

З чэрвеня па жнівень у сядзібе ТБМ у межах кампаніі "Будзьма!" пачынае працаваць летняя гістарычная школа **"Гісторыя на вакацыях"** пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук **Алега Трусава.**

На занятках можна будзе пабачыць і абмеркаваць гістарычныя фільмы, знятыя і паказаныя на Белсаце, будзе праводзіцца гістарычная віктарына, пераможцы якой атрымаюць цікавыя прызы. Падчас заняткаў таксама прадугледжаны абмен думкамі наконт сучаснага стану беларускай мовы і яе функцыянавання ў грамадстве.

Такім чынам удзельнікі змогуць павысіць свае веды па гісторыі Беларусі і папрактыкавацца ў веданні беларускай мовы.

У чэрвені заняткі адбудуцца: **3 чэрвеня** (панядзелак), **17 чэрвеня** (панядзелак), **21 чэрвеня** (пятніца), **28 чэрвеня** (пятніца).

Пачатак а 18-й на вул.Румянцава, 13.

Уваход вольны.

## ДАРЭЧЫ

У чэрвені сядзіба ТБМ працуе па летнім раскладзе.

Па панядзелках і пятніцах **з 16.30 да 19.00,** па аўторках, серадах і чацвяргах **з 15.00 да 19.00** (у гэтыя дні працуе кніжная выстава). У суботу і нядзелю сядзіба не працуе.

